**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 25 (846) 23 чэрвеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by





**Урачыстае адкрыццё матчу 4-га тура Чэмпіянату Віцебскай вобласці па футболе паміж камандамі ФК “Глыбокае” і “ПМЦ” Паставы. Судзейская брыгада – з Віцебска. З мячом – Ліза Гапоненка.** Фота Ул. Скрабатуна. *Працяг на стар. 11.*



## Стала вядома праграма ўрачыстасцяў у Будславе 1 і 2 ліпеня

**Сёлетнія ўрачыстасці ў Будславе 1 і 2 ліпеня пройдуць на тэму «Надзея ў Божай міласэрнасці» і будуць прысвечаныя 25-годдзю адраджэння Мінска-Магілёўскай Мітраполіі.**

**1 ліпеня**
• 13.00 — 17.00 — сустрэча і прывітанне пілігрымаў кусташам а. Віктарам Бурлакам OFM
• 17.00 — евангелізацыйная праграма
• 18.00 — святая Імша
• 20.00 — Акафіст у выкананні хору Грэка-Каталіцкай Царквы
• 20.30 — марыйныя Нешпары
• 21.30 — рахунак сумлення
• 22.30 — музычная пастаноўка на Год Міласэрнасці
• 23.30 — працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай
• 24.00 — святая Імша

2 ліпеня
• 02.00 — моладзевая праграма ў палатачным гарадку
• 02.00 — святая Імша паводле грэка-каталіцкага абраду
• 04.00 — адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту
• 05.30 — Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі
• 06.00 — святая Імша перад абразом Маці Божай
• 08.30 — святая Імша (на польскай мове)
• 10.00 — даклад з нагоды 25-годдзя Мітраполіі
• 11.00 — святая Імша з удзелам папскага легата кардынала Крыстафа Шонбарна

***catholic.by***



## З 14 ліпеня да Вільні будзе хадзіць дадатковы цягнік

Беларуская чыгунка прызначыла дадатковы цягнік міжнародных ліній №809/810 Мінск-Вільня. Цягнік будзе курсіраваць з 14 ліпеня ўдзень чатыры разы на тыдзень: па панядзелках, аўторках, серадах і чацвяргах.

Цягнік №809 Мінск-Вільня будзе адпраўляцца з Мінска ў 14:03 і прыбываць у Вільню ў 17:00.

У адваротным кірунку цягнік №810 Вільня-Мінск будзе адпраўляцца ў 12:30 і прыбудзе ў Мінск у 15:27.

Памежны і мытны кантроль на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь пасажыры будуць праходзіць на станцыі Гудагай, а на тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі — у тэрмінале станцыі Вільня.

***rw.by***



## Пералік стратэгічных тавараў зацверджаны ў Беларусі

**Пералік стратэгічных тавараў зацверджаны ў Беларусі, адпаведнае рашэнне змешчана ў пастанове Саўміна нумар 470 ад 16 чэрвеня, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага ўрада.**

Згодна з дакументам у гэты пералік уваходзяць нафта і нафтапрадукты, нафтавыя газы, газападобныя вуглевадароды, хларыд калію, лесаматэрыялы і пруткі з жалеза або нелегіраванай сталі.

У Беларусі кантроль прымянення трансфертнага цэнаўтварэння ажыццяўляецца па некаторых відах здзелак, сярод якіх рэалізацыя і (або) набыццё стратэгічных тавараў. Такая мера замацавана ў адпаведнасці з дзеючай з 1 студзеня 2016 года рэдакцыяй артыкула 301 Падатковага кодэкса Беларусі.

***БелТА.***



ISSN 2077-8023





## Віцебскі раён

# Разабраліся і адпусцілі

■ Станіслаў Раманчук.

**У паўсядзённым жыцці не заўсёды так бывае, каб справядлівасць у рэшце рэшт перамагала ў складанай сітуацыі.**

А вось нашумеўшая гісторыя арышту і суда над дырэктарам Віцебскай бройлернай фабрыкі, сенатарам верхняй палаты парламенту Ганнай Шарэйка скончылася яе вызваленнем у зале Вярхоўнага суда. У адпаведнасці з Законам аб амністыі з гэтага кіраўніка знялі таксама і судзімасць. Гэту навіну калектыў прадпрыемства сустрэў з вялікай радасцю, бо ўсе на фабрыцы моцна перажывалі за свайго паважанага дырэктара. Падчас судовага працэсу свабодныя ад працы работнікі прыязджалі пасля працоўнай змены ў сталіцу яе падтрымаць, паколькі асаблівых падстаў для яе затрымання амаль на 2 гады па-сутнасці і не было. Пры дырэктару Г. Шарэйка птушкафабрыка квітнела, была адной з самых прыбытковых у Беларусі. Канкурэнтам гэта не падабалася, праваахоўныя органы пасля праверкі завялі справу, а следчыя спрабавалі даказаць, што кіраўніцтва фабрыкі злоўжывае службовымі паўнамоцтвамі, не тыя камбікармы закупляе, да таго ж у Літве, даражэйшыя за беларускія. Жанчыну-дырэктара і яе памочнікаў арыштавалі, а ўжо ў наступным годзе чыстыя страты птушкафабрыкі паблізу абласнога цэнтра перавысілі 50 млрд. рублёў. На шчасце, цяпер знялі арышт і на маёмасць абвінавачваемых па гэтай гучнай справе. Дарэчы, любы кіраўнік мае права на прафесійную рызыку і нават памылкі, але ў нашых умовах карныя органы могуць адразу ўбачыць шкоду дзяржаўным і грамадскім інтарэсам.

## Полацкі раён

# Ляцеў трамвай па гораду

■ Чэслаў Якубовіч.

**З прыходам цёплых дзён інтэнсіўнасць дарожнага руху на беларускіх дарогах рэзка ўзрастае, але аднačасова павялічваецца і колькасць аварый.**

Шэраг такіх непрыемных здарэнняў было зафіксавана апошнім часам у Полацкім раёне. Самае ж незвычайнае ДТЗ адбылося напярэдадні традыцыйнага Дня горада Наваполацка, калі нафтаград рыхтаваўся адзначыць 58-гадавіну заснавання. У самы час пік рабочыя вярталіся з мясцовага завода "Палімір" пасля чарговай змены на папулярным тут сродку перамяшчэння – трамваі. Многія ў вагоне спужаліся, калі на хуткасці шматтонная машына зляцела з рэек. На шчасце, трамвай не перавярнуўся, але на цэлую гадзіну рух грамадскага транспарту на гэтым маршруце быў спынены. Гараджане не сталі чакаць, пакуль спецыяльная аварыйная брыгада спецыялістаў і выратавальнікаў ПАВА № 2 гарадздзела МНС з дапамогай гідраўлікі паставіць трамвай на рэйкі па адзіным у горадзе маршруце. Яшчэ летась там сталі хадзіць навейшыя беларускія трамваі, якія здольныя перавозіць да 165 пасажыраў.

Перад гэтым здарэннем 52-гадовы гараджанін трагічна загінуў вечарам у салоне сваіх "Жыгулёў" на дарозе каля вёскі Ропна. У той дзень на сустрэчную паласу заляцела на іншамарцы па іроніі лёсу маладая жанчына з суседняга Полацка. Яна не пацярпела, а вось у другой легкавушцы ад лабавога ўдару атрымала раненні і патрапіла ў бальніцу жонка загінуўшага. Таксама ў нафтаградзе ў выніку наезда аўтамабіля загінула яшчэ адна пажылая жанчына. Увогуле ўсім удзельнікам дарожнага руху належыць быць вельмі ўважлівымі на дарогах цяпер, паколькі ў двух суседніх гарадах за кароткі тэрмін нават на "зебрах" збілі чатырох дзяцей.

## Пастаўскі раён

# А гэта музыка вечная

■ Кастусь Александровіч

**Дзясяткі розных фестываляў і творчых конкурсаў праводзяцца штогод у нашай краіне.**

Аднак сярод іх пасапраўднаму адметным і нават унікальным стаў менавіта фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" на Пастаўшчыне. Ён невыпадкова ўжо амаль чвэрць стагоддзя праводзіцца ў гэтым старажытным і прыгожым горадзе, бо край мае багацейшую музычную спадчыну, бо яшчэ ў XVIII стагоддзі ў мястэчку ужо дзейнічалі аркестровая школа, была балетная школа, адкрыўся арніталагічны музей і карцінная галерэя графа К. Тызенгаўза. Падчас сёлетняга фестывалю ў Паставах адбылося шмат імпрэз, а адным з самых яркіх стаў юбілейны канцэрт-віншаванне з нагоды 25-годдзя стварэння заслужанага калектыву Беларусі, дарэчы, пад нумарам 1, фальклорнага ансамбля "Паазер'е". Гэты калектыў прадоўжыў музычную спадчыну славутага Груздаўскага цымбальнага аркестра, які яшчэ перад вайной даваў канцэрты ў Варшаве, запісваўся на Польскім радыё, а потым меў вядомасць і на прасторах СССР. Клісышло старэйшае пакаленне, іх справу прадоўжылі выкладчыкі Пастаўскай дзіцячай музычнай школы на чале з яе дырэктарам Анатолем Собалем. У калектыве выдатна іграюць зараз таксама дзеці і ўнукі "Груздаўскіх дзядоў", самабытнасць ансамбля ў тым, што захоўваецца мясцовы рэпертуар і стылістыка народнай музыкі, гучаць дыятанічныя цымбалы, а такога больш ніхто не мае. Апошнім часам рэпертуар паазерцаў значна пашырыўся, ансамбль выпусціў некалькі сваіх музычных дыскаў, ён шмат дзе з поспехам даваў канцэрты ў краінах Еўропы, дзе годна прадстаўляў беларускае нацыянальнае мастацтва.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 23.06.16 | | | | Пятніца 24.06.16 | | | | Субота 25.06.16 | | | | Нядзеля 26.06.16 | | | | Пан. 27.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +16 | +18 | +22 | +21 | +15 | +21 | +25 | +24 | +18 | +23 | +27 | +25 | +20 | +24 | +28 | +26 | +21 | +22 | +26 |
| Ціск | 754 | 756 | 756 | 754 | 754 | 755 | 754 | 752 | 752 | 754 | 753 | 751 | 750 | 750 | 749 | 747 | 747 | 747 | 746 |
| Вецер м/сек | 3 З | 2 Ю-З | 2 С-З | 4 С-З | 2 З | 2 З | 1 З | 2 З | 1 Ю-З | 3 Ю | 4 Ю | 3 Ю-З | 3 Ю | 6 Ю | 6 Ю | 4 Ю-З | 4 С | 2 С-В | 4 С-З |
| Вільготнасць | 84 | 80 | 55 | 72 | 89 | 72 | 58 | 81 | 88 | 67 | 49 | 61 | 73 | 65 | 48 | 56 | 90 | 84 | 72 |

# Аб самым надзённым

## ЕЎРАЗІЙСКІ САЮЗ ЗАСТАЕЦЦА АМОРФНАЙ СТРУКТУРАЙ ДЗЯРЖАЎ СА СЛАБЫМІ РЫНКАМІ І НЕЭФЕКТЫЎНАЙ ЭКАНОМІКАЙ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сітуацыя ў нашай краіне даволі няпростая, паколькі тэмпы падзення эканомікі нават вышэйшыя, чым у занятых паміж сабой гібрыднай вайной Расіі з Украінай. Ужо больш трэці айчынных прадпрыемстваў – стратныя, расце колькасць сем'яў, якія жывуць за рысай беднасці.**

Пачатак сёлетняга лета аказаўся вельмі спякотным, што парадавала беларускіх выпускнікоў школ, таксама адпускнікоў і засмуціла аграрыяў з-за недахопу вільгаці для росту траў і іншых культур. Таксама гарачыя дыскусіі ішлі нядаўна ў Астане, дзе лідары постсавецкіх краін вырашалі праблемы паглыблення эканамічных узаемнавыгадных адносін унутры Еўразійскага саюза, які папоўніўся яшчэ двума даволі беднымі членамі – Арменіяй і Кыргыстанам. Як вядома, у казахскай сталіцы менавіта беларускі лідар быў найбольш рашучым і сказаў у вочы калегам горкую праўду-матку.

Шчыра кажучы, сама гэта даволі груваcткая бюракратычная арганізацыя ЕАЭС – у першую чаргу геапалітычны праект Крамля, дзе пытанні эканомікі другасныя. Беларускі прэзідэнт прынцыпова заявіў, што на працягу паўтара года не ўдалося прасунуцца наперад па ліквідацыі бар'ераў і абмежаванняў ва ўзаемным гандлі, якіх " так и осталось на уровне шести сотень". Унутры гэтага аб'яднання яшчэ да падпісання дагавора аб стварэнні Еўразійскага саюза тры-чатыры гады назад узаемны тавараабарот быў на ўзроўні 65 млрд. USD, а летась скараціўся сур'ёзна – усяго да 45 млрд. долараў.

Добра яшчэ, што дзяржавы-ўдзельніцы хоць дамовіліся да 2025 года закончыць фарміраванне агульнага рынку нафты і нафтапрадуктаў, а потым сфарміраваць яшчэ агульны газавы рынак. А пакуль наша краіна ўвязалася ў чарговую газавую вайну з Крамлём і перастала плаціць "Газпраму" тую цану за газ, якую ён хоча. Расійскі газавы манапаліст абвінавачвае Беларусь, што яна завінавацілася ўжо болей 200 млн. долараў. Спрэчка будзе вырашацца ў міжнародным арбітражным судзе і невядома чым яна для беларусаў яшчэ закончыцца. Відавочна, што беларускае кіраўніцтва засмучана такім становішчам, бо якая можа быць братэрская інтэграцыя з той жа Расіяй без агульнай эканамічнай прасторы.

Становіцца зразумелым, што ўсходняя наша суседка і асноўны гандлёвы партнёр яўна загулялася ў геапалітыку, атрымала на Захадзе па поўнай праграме "халодную вайну" і, самае крыўднае, супраць Беларусі пры адсутнасці мытных бар'ераў будзе па-сутнасці таксама гандлёвую вайну. Беларусаў рэгулярна то абвінавачваюць у кантрабандзе санкцыйных тавараў, то знаходзяць у айчынным малацэ, іншых прадуктах розныя сальманеллы, іншых "жучкоў", якія быццам не адпавядаюць расійскім тэхнічным нормам. У гэтай сітуацыі трэба нам аб сваіх інтарэсах найперш дбаць. Правільна А. Лукашэнка ставіць задачу: " надо находить другие государства, которые купят нашу продукцию, и научиться её продавать".

Як ні горка, а пакуль усе мы з вамі знаходзімся ў тупіку, бо пуцінская вярхушка не спыніць свае імперыялістычныя амбіцыі. З-за чужых войнаў, найперш Крамля з суседняй Украінай, рэзкага пагаршэння адносін афіцыйнай Масквы з вядучымі заходнімі дзяржавамі і ЕС у цэлым еўразійская інтэграцыя будзе і надалей прабуксоўваць, а беларусы жыць даволі бедна. Праблема аднак у тым, што У. Пуцін і не збіраецца хоць крыху асадзіць назад, пайсці на ўступкі, а Расія будзе яшчэ болей прайграваць у суперніцтве са значна болей тэхналагічна развітым Захадам.

Невыпадкова кіраўніцтва Беларусі працягвае курс на паляпшэнне адносін на заходнім накірунку, адкуль да нас могуць прыйсці патрэбныя інвестыцыі і фінансавыя ін'екцыі. Вось і беларускі лідар правёў днямі перамовы з адным з кіраўнікоў Сусветнага банка, вельмі цёпла прымаў міжнароднага госця. Тым часам стала вядома, што ў нас рыхтуецца ўказ аб спрашчэнні візавага рэжыму. Краіне вельмі патрэбна свежая валюта, прыток замежных турыстаў, бо ў 3-м квартале Беларусі трэба аддаць 2 млрд. долараў па ранейшых крэдытах. Сітуацыя ў нашай краіне даволі няпростая, паколькі тэмпы падзення эканомікі нават вышэйшыя, чым у занятых паміж сабой гібрыднай вайной Расіі з Украінай. Ужо больш трэці айчынных прадпрыемстваў – стратныя, расце колькасць сем'яў, якія жывуць за рысай беднасці.

Прайшоўшая у Казахстане сустрэча на вышэйшым узроўні, як ні сумна, не дала адказаў на існуючыя асноўныя праблемы і ўзрушэнні. Дзяржавы ЕАЭС працягваюць па-сутнасці таптацца на адным месцы, а ў нас можа быць, па ацэнках незалежных эканамістаў, новая дэвальвацыя беларускага рубля пры дрэнным развіцці далейшых падзей. Але пакуль насельніцтву будзе не да гэтага. У пачатку ліпеня ў кішэнях беларусаў з'явяцца новыя грошы і яшчэ манеты. Моладзь да гэтых новаўвядзенняў чарговай дзнамінацыі, канешне, прывыкне адразу, а вось людзям старэйшага пакалення прыйдзецца паламаць галаву, каб не памыліцца ў разліках і каб іх не абшукалі розныя махляры і злачынцы.

## Дзень за днём

**Чарговыя парламенцкія выбары пройдуць 11 верасня. На фоне растучых праблем прайшоў V Усебеларускі сход. З-за росту актыўнасці НАТО Расія пачала сцягваць войскі на граніцу з Беларуссю. Беларусы сталі болей траціць свае валютныя зберажэнні. Курс долара пачаў зноў расці. Лічаныя дні засталіся да чарговай дэнамінацыі і ўвядзення новых грошай. Золатавалютныя рэзервы ў маі выраслі на 43,1 млн. долараў. Амаль 4 тысячы беларусаў прызналіся ў дармаедстве. Расійскі танны авіяперавозчык "Победа" адмовіўся ад палётаў у Беларусь. На ЦТ запісаліся больш 100 тысяч маладых беларусаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША**. Былы пасол у Расіі, прафесар Стэнфардскага ўніверсітэта М. Макфол заклікаў ЕС і НАТО дапамагчы Украіне і паставіць на месца Расію за яе вельмі агрэсіўную палітыку.

**Францыя.** У порце Сен-Назер перадалі першы з двух караблёў-верталётаносцаў "Містраль", які спачатку пабудавалі для Расіі, ВМС Егіпта, кошт двух суднаў 950 млн. еўра.

**Германія.** Канцлер А. Меркель заявіла, што ўмовай неадкладнага зняцця санкцый супраць Расіі стане выкананне поўнасцю Масквой сваіх абавязацельстваў па мінскіх пагадненнях.

**Расія.** Па запыту калег з Кіева ў трэці раз Генпракуратура РФ адмовілася арыштаваць і выдаць Украіне былога беглага прэзідэнта (2010-2014) Віктара Януковіча.

**Азербайджан.** Цэнтр па даследванні карупцыі абвінавціў сям'ю прэзідэнта І. Аліева і прыбліжаных бізнесменаў у атрыманні звышпрыбыткаў ад дэвальвацыі нацвалюты.

**Польшча.** На працягу 11 дзён на тэрыторыі краіны і на моры праходзілі буйнейшыя за апошнія 25 гадоў ваенныя вучэнні "Anakonda-16" войск і 12 караблёў НАТО.

**ЗША.** Упершыню ў гісторыі краіны датэрмінова намінацыю на пасаду прэзідэнта ад Дэмакратычнай партыі заваявала жанчына Хілары Клінтан, яе канкурэнт - Д. Трамп.

**Ірак.** У горадзе Масул баевікі-тэрарысты "Ісламскай дзяржавы" жывымі спалілі яшчэ 19 палонных жанчынезідак толькі за адмову ўдзельнічаць з імі ў "сэксджыхадзе".

**Галандыя.** Следчыя паведамілі сваякам загінулых, што на месцы крушэння авіярэйса МН 17 быў знойдзены буйны фрагмент ракеты "Бук", якой забілі 298 чалавек, з іх 80 дзяцей.

**Балгарыя**. Святы Сінод Балгарскай праваслаўнай царквы вырашыў адкласці правядзенне сусветнага Усеправаслаўнага сабора, што ўдарыла па інтарэсах Рускай мітраполіі.

**Бельгія.** На ўсходзе краіны на хуткасці 90 км у гадзіну пасажырскі цягнік сутыкнуўся з таварным саставам, ад удару 2 вагоны зляцелі з рэек, былі загінулыя і параненыя.

**Казахстан.** У ходзе спецаперацыі паліцыя застрэліла асноўных невядомых злачынцаў, якія арганізавалі шэраг нападзенняў у горадзе Актабэ, атакавалі і воінскую часць.

**Швейцарыя.** На рэферэндуме швейцарцы не падтрымалі прапанову прадаставіць усім грамадзянам базавы даход 2,5 тысячы USD, хоць даходы краіны дазваляюць гэта зрабіць.

**Англія.** Прафесар Кембрыджскага ўніверсітэта П. Уодхэмс заявіў, што ўпершыню за 100 тысяч гадоў сёлета ці ў 2017 годзе Арктыка можа вызваліцца ад ледзянога покрыва.

**Францыя.** Сусветнае антыдопінгавае агенцтва WADA прызнала законнымі дзеянні мясцовай паліцыі, якая абшукала зборную Беларусі па веславанні на зборах тут.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Наша краіна, як папярэдзіў палітолаг А. Класкоўскі, стала плацдармам халоднай чужой вайны паміж Пуціным і Захадам, Масква ўжо допускае пераход яе ў гарачую фазу.

**Гродна.** Галоўны санітарны ўрач Беларусі І. Гаеўскі пасля смерці 6-гадовай дзяўчынкі ад прышчэпкі заявіў, што ў краіне падчас вакцынацыі дзяцей ніколі не было такіх выпадкаў.

**Мінск.** Вядучая газета краіны "СБ. Беларусь сегодня" апублікавала артыкул, каб у турме сядзелі рускія неанацысты, якія трэніравалі беларускіх дзяцей у сваіх лагерах.

**Смаргонь.** Група кампаній "Садружнасць" пачынае ў райцэнтры будаўніцтва новага завода па перапрацоўцы соевых бабоў і насення рапсу аб'ёмам да 2-х тысяч тон у суткі.

**Мінск.** Рашэнне аб допуску нават мяккіх апазіцыянераў у парламент, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, пакуль не прынята і будзе прымацца ў апошні момант, гэта пэўная рызыка.

**Магілёў.** Па гарачых слядах следчыя адшукалі і затрымалі двух забойцаў прапаўшага 36-гадовага гараджаніна, хоць злачынцы паспелі схаваць труп у забетаніраванай яме гаражу.

**Мінск.** Фінансавы аналітык В. Іасуб пацвердзіў, што на падтрымку дзяржпрадпрыемстваў у ранейшых аб'ёмах зараз у дзяржбюджэце Беларусі проста няма сродкаў.

**Гродна.** У выніку аварыі ў адным з цэхаў "Гродна Азот" загінулі двое рабочых 28 і 35 гадоў, яшчэ два атрымалі атраўленні, з тэрыторыі завода паваліў густы дым.

**Мінск.** Глава вобласці С. Шапіра прызнаў, што грошай на ўзвядзенне льготнага жылля няма, ёсць 60 млрд. на крэдытныя рэсурсы, а патрабуецца ў 6 разоў болей.

**Маладзечна.** З-за нізкай загрузкі пасажырамі (да 30 %) перасталі хадзіць да Мінска сучасныя швейцарскія электрычкі "Stadler", іх пусцілі на іншыя маршруты на Брэст.

**Карэлічы.** Двое мужчын і 51-гадовая жанчына памерлі ў вёсцы Некрашэвічы праз некалькі гадзін пасля распіцця кампаніяй невядомай спіртазамяшчальнай вадкасці.

**Мінск.** Сёлета ў Беларусі, як папярэдзіў эканаміст Д. Крук, прадоўжыцца рэцэсія, а ў 2017 годзе эканоміка вернецца да стагнацыі пры адносна стабільнай інфляцыі ў чаканні рэформ

**Лунінец.** Позна вечарам у хату 69-гадовай жыхаркі вёскі Сасноўка ўварваліся двое рабаўнікоў у масках, гвалтам завалодалі буйной сумай грошай і збеглі.

**Шчучын.** Па дарозе з магазіна дамоў загінуў ад удару маланкі мужчына, пасля гэтага раніцай знайшлі труп 39-гадовага матацыкліста пасля ўдару ў дрэва на сельскай дарозе.

**Барысаў.** Былы галоўны трэнер БАТЭ 39-гадовы беларус Віктар Ганчарэнка ўзначаліў клуб расійскай прэм'ер-лігі "Уфа", яго апошнім месцам працы быў маскоўскі ЦСКА.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Дапамогу па беспрацоўі прывяжуць да БПМ і ўвядуць страхаванне ад беспрацоўя - праект праграмы




■ Кар. БЕЛТА

**У Беларусі плануецца прывязаць памер дапамогі па беспрацоўі да бюджэту пражытковага мінімуму (БПМ), а таксама разгледзець пытанне аб укараненні сістэмы страхавання ад беспрацоўя.**

Гэта прадугледжана праектам праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2016-2020 гады, які будзе абмяркоўвацца на пятым Усебеларускім народным сходзе, паведамляе карэспандэнт БЕЛТА.У дакуменце адзначаецца, што ў бягучым пяцігоддзі плануецца ўдасканаленне механізму матэрыяльнай падтрымкі беспрацоўных шляхам прывязкі памеру дапамогі па беспрацоўі да бюджэту пражытковага мінімуму, а таксама разгляд пытання аб укараненні ў рэспубліцы сістэмы страхавання ад беспрацоўя. Асаблівая ўвага будзе нададзена ўкараненню механізмаў па ўзмацненні сацыяльнай падтрымкі малазабяспечаных груп насельніцтва, а таксама якія маюць патрэбу ў дадатковай падтрымцы ў мэтах змякчэння наступстваў павышэння тарыфаў на паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі шляхам прадастаўлення безнаяў–ных жыллёвых субсідый.

Плануецца спрасціць працэдуру прадастаўлення дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі. Далейшае ўдасканаленне адраснай падтрымкі неабароненых катэгорый грамадзян дасць магчымасць захаваць узровень малазабяспечанасці насельніцтва ў сацыяльна прымальных памерах - да 5,5% у 2020 годзе. Дзяржаўная палітыка ў галіне сацыяльнай абароны насельніцтва будзе нацэлена на павышэнне даступнасці і эфектыўнасці сацыяльнай дапамогі, далейшае развіццё сістэмы сацабслугоўвання і сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў. Будуць шырэй прымяняцца стацыянаразамяшчальных формы працы і механізм дзяржаўнага сацыяльнага заказу. Прадугледжваецца паляпшэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў. Так, намечана рэканструкцыя і будаўніцтва 16 аб'ектаў у стацыянарных установах сацабслугоўвання, іх капітальны і бягучы рамонты, аснашчэнне медыцынскім, рэабілітацыйным і тэхналагічным абсталяваннем, аўтамабільным транспартам. У Беларусі будуць рэалізаваны меры па выкананні палажэнняў Канвенцыі аб правах інвалідаў і стварэнні безбар'ернага асяроддзя жыццядзейнасці інвалідаў і фізічна аслабленых асоб.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Глыбокае.** Абласны Эканамічны суд распачаў справу аб банкруцтве неплацежаздольных філіяла Падсвільскага вінзавода і галаўнога Полацкага вінзавода, у іх велізарныя даўгі.

**Віцебск.** Самі прышлі ў падатковыя інспекцыі 308 жыхароў вобласці і прызналіся, што яны "дармаеды", ім далі скідкі 10 % (360 тыс. рублёў) па выплатах падатку да 15 лістапада

**Талачын.** Днём па невядомай прычыне загарэўся дах кароўніка ў вёсцы Рамашкава, выратавальнікі МНС разам з жывёлаводамі эвакуіравалі з фермы 169 кароў.

**Сянно.** На дапамогу калектыву ДЭУ-38 па рамонце аўтадарогі Р25 Віцебск-Сянно-Талачын да абласных "Дажынак" прыйшлі калегі з ДЭУ Лепеля, Оршы, ДБУ-63 Талачына

**Віцебск.** Пасля 20 гадоў эміграцыі бацькоў праведаў былы дэпутат Вярхоўнага савета ад БНФ, журналіст радыё "Свабода" С. Навумчык, адзначыў поўную апатыю ў грамадстве.

**Докшыцы.** Віцебскі дзяржуніверсітэт імя П. Машэрава правёў у райцэнтры канферэнцыю па дзейнасці трацейскіх судоў па праекце ЕС/ААН "Як вырашыць грамадзянскія спрэчкі".

**Шаркаўшчына.** У райцэнтры прайшлі Богаслужэнні і крыжовая дарога з нагоды 5-годдзя кананізацыі праваслаўнага святара К. Жданава, якога бальшавікі жывым закапалі ў магілу.

**Полацк.** У вёсцы Ропна 32-гадовы вадзіцель Opel выскачыў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з "Жыгулямі", ад удару загінуў 54-гадовы кіроўца іх, жонка была паранена.

**Віцебск.** Вечарам у кватэры непрацуючага 26-гадовага гараджаніна міліцыянеры знайшлі спецыяльную наркалабараторыю для вырошчвання марыхуаны, забралі 117 грам атруты.

**Наваполацк.** Следства выявіла, што атракцыён, на якім дзіця атрымала траўму пасля парыву ветра, быў устаноўлены без дазволу, але складу злачынства не было.

**Паставы**. Райарганізацыя таварыства Чырвонага Крыжа арганізавала з дапамогай валанцёраў паездку групы інвалідаў-калясачнікаў з райцэнтра і Варапаева ў Мосар.

**Браслаў.** Танцавальная пара з Ліёзна сярод больш 80 удзельнікаў стала пераможцам і уладальнікам Гранпры на абласным конкурсе побытавых беларускіх народных танцаў.

**Гарадок.** На трох пляцоўках райцэнтра прайшло міжраённае свята народнай творчасці, беларускай паэзіі і фальклору "Гарадоцкі Парнас-2016" з велапрабегам "Сцежкамі Тараса"

**Полацк.** Суд пакараў 56-гадовага беспрацоўнага махляра 5 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці, ён за хабар 12 тыс. $ абяцаў дапамагчы землякам "адкасіць" ад службы ў арміі.

**Орша.** З новым рэкордам Беларусі выхаванка мясцовай ДЮСШ Аліна Талай выйграла спаборніцтвы ў Рэгенсбургу (Германія) у бегу на 100 м з бар'ерамі, яна едзе на Алімпіяду.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У Бычках адзначылі 92-я ўгодкі

**Мерапрыемства адбылося ў нядзелю 19 чэрвеня на малой радзіме пісьменніка на Ушаччыне.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Па традыцыі, арганізавана святкаванне было Рухам "За Свабоду" і Віцебскай абласной арганізацыяй Таварыства беларускай мовы. У вёску Бычкі з'ехаліся госці з усёй Беларусі. Праўда, у гэтым годзе гасцей было крыху менш, але атмасфера была вельмі сяброўскай, можна сказаць сямейнай. Сярод гасцей быў і чэшскі амбасадар Мілан Экерт.

Першая частка мерапрыемства была падрыхтавана Віцебскай абласной арганізацыяй Таварыства беларускай мовы. Вядоўца мерапрыемства намесніца кіраўніка арганізацыі Алена Сакалова напачатку прадаставіла слова Юрасю Бабічу, які з гэтага года ўзначальвае абласную арганізацыю ТБМ. Ён прывітаў удзельнікаў мерапрыемства і напачатку слова было дадзена тым, хто ведаў Васіля Быкава асабіста, працаваў з ім.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч адзначыў, што вельмі важна любіць і шанаваць чалавека пры яго жыцці. Але ўлада як не любіла Васіля Быкава пры жыцці, так і не спяшаецца ўшанаваць яго памяць зараз. Пасля смерці пісьменніка была прынятая пастанова Савета міністраў аб ушанаванні яго памяці, якая не выкананая і дагэтуль. Васіль Быкаў пакінуў пасля сябе вялікую літаратурную спадчыну, у яго пасля смерці засталося шмат неапублікаваных твораў, у адрозненне ад іншых пісьменнікаў, якія паспявалі надрукаваць усе свае творы пры жыцці.

Потым слова ўзяў Уладзімір Някляеў, які прачытаў верш, прысвечаны Быкаву. Ён звярнуў увагу на песімізм і аптымізм Быкава адносна будучыні Беларусі. Шмат хто лічыць Быкава песімістам, - адзначыў Уладзімір Пракопавіч, - Быкаў гэта і сам падкрэсліваў, але ў глыбіні душы ён быў усё ж аптымістам, інакш не пісаў бы свае творы на беларускай мове.

Ён адзначыў: "Зараз тут стварылі муляж дома, дзе нарадзіўся будучы пісьменнік, але добра, што ёсць хоць гэты муляж. Бо ў нас уся краіна – муляж з муляжнай уладай… Хацеў сказаць, што і з муляжным народам, але, убачыўшы вас, устрымаўся."

Потым сваімі ўспамінамі падзяліўся пісьменнік Уладзімір Арлоў. "Я пазнаёміўся з Васілём Быкавым двойчы, – паведаміў спадар Уладзімір, – першы раз – у школе, калі праходзілі "Альпійскую баладу", я пазнаёміўся з Быкавым як з літаратарам, а другі раз – на сустрэчы маладых літаратараў я пазнаёміўся з Быкавым ужо як з чалавекам."

Уладзімір Арлоў нагадаў, што на той сустрэчы нейкая жанчына з ЦК партыі доўга выступала і вучыла пісьменнікаў, пра што трэба пісаць, а пра што – не. Быкаў увесь гэты час маўчаў. "А мы слухалі яго маўчанне, і яно гаварыла нашмат больш, чым гэта гаварыльня", – адзначыў Арлоў.

Ён таксама падзяліўся ўспамінамі пра пахаванне Васіля Быкава ў 2003 годзе. Сваёй смерці ён хоць і не надоўга, але аб'яднаў беларускае грамадства, на яго пахаванне прыйшло шмат людзей. Гэта быў, па словах пісьменніка, той выпадак, калі насельніцтва ператвараецца ў народ. Менавіта так у свой час выказаўся Васіль Быкаў пра акцыю на Дзяды ў 1988 годзе.

Далей слова было дадзена дырэктару беларускай службы радыё "Свабода" Аляксандру Лукашуку. Ён распавёў пра свой званок Васілю Быкаву ў 1999 годзе, каб павіншаваць яго з 75-годдзем. Акрамя віншаванняў, спадар Лукашук тады запісаў з Быкавым і яго інтэрв'ю, якое сярод іншага зараз увайшло ў кнігу "Быкаў на "Свабодзе". Аляксандр Лукашук зачытаў вытрымкі з гэтай размовы, дзе гаворка ішла пра дзяцінства Васіля ў Бычках. Пісьменнік узгадаў, што сям'я жыла тады вельмі бедна, пачастункам у сялян лічыліся смятана, сыр, масла. Былі ў краме цукеркі-падушачкі, але куплялі іх дзецям вельмі рэдка, бо ў калгасе амаль нічога не плацілі. А шакалад ён упершыню пакаштаваў ужо на фронце, быў гэта трафейны нямецкі шакалад.

Паўспамінах Быкава, калі ён пачаў сваю літаратурную працу, у яго стаяў выбар: на якой мове пісаць – рускай або беларускай. Але вагаўся пісьменнік нядоўга: "Я беларус, і мова мая беларуская… Беларуская мова вельмі добра накладалася на маю душу".

Пасля выступаў паэт і перакладчык Уладзімір Папковіч, які таксама падзяліўся сваімі ўспамінамі ад знаёмства з Быкавым і Барадуліным. А напрыканцы ён прачытаў верш, у якім ён дакарае ўлады за тое, што яны не заступаюцца за беларускую мову і не дапамагаюць ёй. "Праўда, – адзначыў Уладзімір Папковіч, – чамусьці я тут не бачу прадстаўнікоў улады."

У сваім выступе супрацоўнік радыё "Свабода" Сяргей Абламейка звярнуў увагу на той падзел, які зараз існуе ў беларускім грамадстве: "Мы падзеленыя па розных накірунках: сацыяльных, гендэрных, палітычных', але постаць Быкава можа нас аб'яднаць у будучыні: уладу, апазіцыю і ўсё наша грамадства".



Выступае Мар'ян Місевіч з Падсвілля.

Пасля выступілі гумарыст Міхась Мірановіч, які прачытаў свае цікавыя філасофскія замалёўкі пра жыццё, і паэт і бард Георгі Станкевіч. Спадар Георгі выканаў ненкалькі сваіх новых твораў, сярод якіх была песня, прысвечаная тым, хто не вярнуўся з вайны. Георгі Станкевіч адзначыў, што наша сучасная ўлада не спяшаецца ўшаноўваць памяць Васіля Быкава, бо лічыць сябе спадкаемцам камуністычнай улады. А тая, як вядома, не любіла пісьменніка за яго праўду пра вайну.

Свой новы верш, прысвечаны Бычкам, прачытаў Канстанцін Севярынец. Ён таксама звярнуў увагу, што добра было б, каб з'явіліся вуліцы Быкава ў нашых гарадах, каб улады ўшанавалі яго памяць, але імя Быкава настолькі вялікае, што жыве і без гэтага ўшанавання.

Далей адбылася вікторына, прысвечаная творчасці Васіля Быкава. Пераможцамі ў ёй сталі мастак Алесь Марачкін і жыхар Падсвілля Мар'ян Місевіч. У якасці прызоў яны атрымалі кнігі. У сваім слове Мар'ян Місевіч падзяліўся сваімі ўражаннямі ад кнігі "Доўгая дарога дадому". "На 51-й старонцы гэтай кнігі, – узгадаў Мар'ян Мечыслававіч, – Васіль Быкаў узгадвае пра Падсвілле, куды ён прыехаў у 1946 годзе да сваёй сястры Валянціны. Ён пераначаваў на бухгалтарскім стале ў нейкай канторы, і яны пайшлі назаўтра пяшком у Бычкі". Спадар Мар'ян хацеў спытацца ў Валянціны Уладзіміраўны, якой дарогай яны ішлі. Але гэта сталася немагчымым, бо яе нядаўна пакалечыў зламыснік і яна знаходзіцца ў віцебскай бальніцы.

Па словах Мар'яна Місевіча, цікава было б распрацаваць турыстычны маршрут з Падсвілля ў Бычкі, бо па гэтых сцежках хадзіў калісьці і вялікі наш мастак Язэп Драздовіч.

Мастак Алесь Марачкін нагадаў прысутным, што Васіль Быкаў напачатку збіраўся ісці вучыцца на мастака, бо нядрэнна маляваў. Але так склаўся лёс, што ён стаў пісьменнікам. Але мастацтвам ён заўсёды цікавіўся, пастаянна наведваў выставы беларускіх мастакоў. "Ушацкія мясціны вельмі прыгожыя, – сказаў мастак, – таму не дзіва, што тут нарадзілася столькі творчых людзей."

Напрыканцы літаратурнай часткі слова ўзяў Ганаровы старшыня Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ Іосіф Навумчык. Ён звярнуў увагу на тое, што гэты год аб'яўлены ў Беларусі Годам культуры. Таму варта ўшанаваць усіх творцаў, якія адзначаюць у гэтым годзе свае юбілеі. Вядома, шанаваць пісьменнікаў і паэтаў трэба яшчэ пры жыцці, але нам варта ўшанаваць таксама памяць тых, каго ўжо няма разам з намі.

А вось бліжэйшы юбілей, які нас чакае, 9 ліпеня будзе адзначаць Уладзімір Някляеў. "Я не буду казаць пра яго ўзрост, бо не





Кіраўнік віцебскай абласной арганізацыі ТБМ Юрась Бабіч уручае прыз мастаку Алесю Марачкіну.

# з Дня нараджэння Васіля Быкава

паверыце," – пажартаваў Іосіф Адамавіч. Ён таксама папракнуў улады Ушацкага раёна ў тым, што яны абяцалі ўшанаваць памяць Рыгора Барадуліна ва Ушачах, але дагэтуль сваё слова не стрымалі.

Другую частку мерапрыемства праводзіў Рух "За свабоду", які ўзначальвае Аляксандр Мілінкевіч. Напачатку ён павіншаваў усіх з Днём народзінаў Васіля Быкава. Ён адзначыў, што яму ў свой час было цяжэй, як нам зараз, тым не менш, ён не зламаўся. Аляксандр Уладзіміравіч распавёў пра сяброўства свайго бацькі з Васілём Уладзіміравічам у той час, калі Васіль Быкаў працаваў у Гродне.

Аляксандр Мілінкевіч коратка нагадаў гісторыю стварэння Прэміі імя Васіля Быкава "За свабоду думкі". Штуршком для яе стварэння сталі падзеі на Плошчы ў 2006 годзе. Першых лаўрэатаў абірала грамадскасць. Імі сталі Уладзімір Арлоў, Рыгор Барадулін і Павел Севярынец. А ўжо ў наступныя гады будучых лаўрэатаў абіралі тыя, хто раней атрымаў гэту ўзнагароду.

Сёлета Прэмія ўручалася ў 9-ы раз. Яе атрымалі ўжо 12 чалавек. Праўда, двое ўжо пакінулі гэты свет. Сярод якіх і мінулагодні лаўрэат - паэт Ніл Гілевіч. Удзельнікі мінутай маўчання ўшанавалі яго памяць.

Сёлетняга лаўрэата аб'явіў пісьменнік Уладзімір Арлоў. Ім стаў рэжысёр Валеры Мазынскі. Валеры Мазынскі. З 1976 па 1989 год ён працаваў галоўным рэжысёрам віцебскага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, з'яўляецца адным з ініцыятараў стварэння дзяржаўнага тэатра "Лялька" ў Віцебску.

У 2013 годзе Валеры Мазынскі зняў дакументальную стужку "Глыбоцкая змова" пра падпольную моладзевую арганізацыю "Саюз беларускіх патрыётаў" (Глыбокае–Паставы), што дзейнічала пасля заканчэння Другой сусветнай вайны.

З атрыманнем прэміі спадара Валерыя павіншавалі Уладзімір Мілінкевіч, Уладзімір Арлоў, Ада Райчонак, Аляксандр Лукашук, Алесь Марачкін, Уладзімір Някляеў і, вядома, усе прысутныя як сваімі апладысментамі, так і шмат хто потым падыходзіў асабіста. Дарэчы, сваё першае інтэрв'ю ў якасці лаўрэата Валеры Мазынскі даў журналістам з Глыбокага Змітру Лупачу і Леаніду Юрыку.

Напрыканцы афіцыйнай часткі перад удзельнікамі святкавання выступіў ансамбль "Тутэйшая шляхта".

Далей гасцей чакаў пачастунак, дзе можна было ў сяброўскай атмасферы пагутарыць адзін з адным. А ў Бычках з'явіцца яшчэ адзін музей Быкава – грамадскія актывісты з Віцебска купілі будынак, у якім некалі месцілася школа, у якую хадзіў Васіль Быкаў.


Зараз каля былой школы пасяліўся бусел.


Аляксандр Міленкевіч уручае Валерыю Мазынскаму статуэтку лаўрэата Прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі».


Выступае «Тутэйшая шляхта».

## Валеры Мазынскі: Мы пакуль не навучыліся любіць і паважаць сябе



Адразу пасля ўручэння прэстыжнай узнагароды Валеры Мазынскі пагутарыў з глыбоцкімі журналістамі.

■ Зміцер Лупач

**– Ці чаканым было для вас атрыманне гэтай прэміі?**

– Я ад самага пачатку яе хацеў (шэптам, усміхаецца). Кожны чалавек, калі гэта звязана з Быкавым, недзе ў сваіх думках марыць атрымаць гэту прэмію і лічыць, колькі ж ужо ў яго ёсць заслугаў. Таму я абсалютна спакойна ставіўся да таго, што мне яе не даюць. А вось сёння, дакладней ужо пазаўчора, гэта стала для мяне нечаканасцю, такой прыемнай нечаканасцю.

Бо тыя дзяржаўныя прэміі, заслужаныя, мы ведаем, як гэта рабілася. Іх самі сабе рабілі. Вядома, былі падставы іх даваць, але сам працэс быў без нечаканасцей, усе ўжо ўсё ведалі. А тут гэта адбылося нечакана, тым больш, тут цябе ацэньваюць іншыя. Таму ў мяне сёння адчуванне, што я сапраўды нешта зрабіў вартае ўвагі. І гэта самае прыемнае, бо што яшчэ пасля нас застаннецца. А застаецца наша творчасць, тыя шчырыя словы, што пра цябе сказалі. І гэта самае каштоўнае.

**– У сваім выступе вы сказалі, што марыце аб тым, каб беларусы, узяўшыся за рукі, утварылі вялікі крыж ад Брэста да Воршы і ад Браслава да Палесся. Але сказалі, што пры вашым жыцці гэта не здарыцца. Чаму?**

– На жаль, зараз гэта немагчыма. Чаму? Таму што мы пакуль не навучыліся любіць саміх сябе, паважаць саміх сябе. Мы пакуль не вылезлі з адчування сваёй тутэйшасці. Мы пакуль тыя вяскоўцы, якія жывуць унутры свайго плота, агарода, а за гэтым плотам сусед – гэта ўжо не маё. Мы нядаўна перасяліліся ў гарады, у нас няма грамадскага гарадскога асяроддзя. Яно яшчэ толькі ў працэсе ўтварэння. Яно яшчэ толькі ствараецца і мусіць узрошчваць у сабе новую гарадскую беларускую культуру. А гэта ўжо адказнасць не толькі за сябе асабіста, за свой двор, а гэта адказнасць ужо шырэйшая, гэта адчуванне Бацькаўшчыны. А гэта не проста гук, прыгожае літаратурнае слова, а гэта адчуванне ўнутры сябе.

І гэты вобраз у мяне нарадзіўся тады, калі прыбалты змаглі ўзяцца за рукі ў свой час (у 1989 годзе людзі ўтварылі жывы ланцуг ад Вільні праз Рыгу да Таліна – З.Л.), для мяне гэта быў шок. Гэта быў той знак, пра які я на сённяшні дзень толькі мару. Калі б мы маглі нават не крыж, а таксама такі ланцуг зрабіць па адным гуку, адным клічу, розныя – інтэлегенцыя, п'яніцы, бамжы, артысты, журналісты, рабацягі – калі б мы змаглі сабрацца і ўзяцца за рукі, дараваўшы сабе ўсе свае заганы, з'явілася б нешта вышэйшае, чым мы самі. Тады б з'явілася адчуванне Радзімы, Бацькаўшчыны.

**– А вы згодны, што адраджэнне беларускасці прыйдзе ўжо з горада, а не з вёскі?**

– Я лічу, што не столькі адраджэнне, як нараджэнне. Мы мусім нараджацца зноў. Тое апірышча, тыя імёны, якія засталіся ў гісторыі, тыя ахвяры, на якіх мы стаім, як на купінах у багне, якія не даюць нам правaліцца. Яны і надалей будуць нас падтрымліваць.

Жыццё кароткае, а нараджэнне нацыі - працэс доўгі. Таму вельмі важна выйсці зараз з сялянскага тутэйшага адчування ў адчуванне грамадзяніна. Мы мусім узрасціць у сабе грамадзянаў краіны. А гэта зараз вельмі цяжка, бо ўсё робіцца для таго, каб манкуртызаваць маладое пакаленне.

А ўся надзея толькі на яго. Нам трэба працаваць з моладдзю, пакінуць пра сябе нашы заслугі, што мы нейкія там лаўрэаты, вялікія людзі, нам трэба дапамагаць маладым. Не цягнуць за сабой, а ісці да іх і чым можам, дапамагаць. Вядома, праблема маладога і старэйшага пакалення заўсёды будзе, таму нам не трэба навязваць свае погляды. Моладзь не любіць, калі ёй торкаюць пальцамі і кажуць: "Рабі так, як я". Гэтага ні ў якім разе нельга рабіць. Нам трэба спасцігаць сутнасць нашай моладзі, наколькі гэта магчыма. Вядома, гэта цяжка, бо мы іншае пакаленне. Але зразумець іх і дапамагчы ім нам неабходна. Нават сваім маўчаннем, сваёй прысутнасцю падтрымаць іх і не навязваць ім сваіх састарэлых спосабаў жыцця.

# Колькі, усё ж, гадоў Падсвіллю? 90? 225?

■ Уладзімір Скрабатун

Перыядычна, раз на паўгода ці год пераглядаю, што новага ці якія абнаўленні з'явіліся па цікавых для аўтара гэтых радкоў тэмах у глабальным сецiве Інтэрнэту. Цяпер шматлікія бібліятэкі з іх зборамі сталі даступныя ў лічбавым варыянце. То бок не трэба выдаткоўваць свае сродкі на візу і білеты, можна, не выходзячы з дому, "пагартаць" старонкі газет ці кніг, дзе-небудзь у Варшаве ці Вільні.

Яшчэ гадоў пяць таму "вывудзіў" цікавую інфармацыю – Падсвілле як паселішча ўпершыню згадваецца ў **1793** годзе. Але, што толку з гэтай даты, калі няма спасылкі на першакрыніцу.

Сама дата цікавая, бо ў гэтым годзе адбываўся другі падзел Рэчы Паспалітай.

Вырашыў сёння ізноў спраўдзіць навінкі па тэме "Падсвілле" (Podświle). Фактычна ўсё новае пішуць палякі? Ад "нашых" чакаць чагосьці новага – не выпадае! У нас жа адзін раз і назаўсёды напішуць гісторыю, якая становіцца неаспрэчнай аксіёмай.

Трапляю на сайт **"Мясцовасці, якія звязаныя з Замбжыцкімі"** (Miejscowości związane z Zambrzyckimi). Чытаю:

"Падсвілле – мястэчка ў Пліскай гміне, Дзісненскага павету, размешчанае над возерам Алойзберг і возерам Белым. Паблізу найглыбейшае на Беларусі – возера Доўгае. Да Глыбокага – 26 кіламетраў. Вядомае – ад **1793** года як вёска, што належыла да Пліскай воласці; былі тут сляды гарадзішча з VIII стагоддзя ў вёсцы Свіла І.

Перад падзеламі Падсвілле належыла да Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў (Вялікае Княства Літоўскае), а ў 1921-1939 гадах знаходзілася ў межах Польшчы.

У 1902-1904 гадах тут збудаваная чыгунка, якая праходзіла з Маладзечна ў Полацк. У 1924 годзе паўстаў аўтаномны гарнізон палка Корпуса Аховы Памежжа: кашары, афіцэрскія дамы, 7-класная школа, стадыён, гарнізонны касцёл (1931-1947).

На цвінтары знаходзяцца пахаванні польскіх жаўнераў, якія палеглі ў вайне 1920 года. На тым самым цвінтары былі пахаванні Замбжыцкіх, Тышкаў, Мясаедаў, Кмітаў, Скакоўскіх, Коўзанаў, Арцімёнкаў".

Выглядае на тое, што Падсвілле звязанае з Замбжыцкімі толькі тым, што тут, на мясцовым цвінтары, пахаваныя Замбжыцкія.

Але на сайце дзясяткі асобных артыкулаў пра вёскі цяперашняй Глыбоччыны, Докшычыны, Шаркоўшчыны, Браслаўшчыны, якія так ці інакш звязаныя з Замбжыцкімі: Бабруйшчына, Баравое, Целяшы, Давыдкі Малыя, Давыдкі Вялікія, Дзісна, Глыбокае, Гваздова, Галубічы, Ёды, Крулеўшчына, Лужкі, Новая Вёска, Новы Пагост, Пліса, Перадолы, Порплішча, Стрынадкі, і – вельмі шмат далей.

Каб мець уяўленне пра сайт **"Мясцовасці, якія звязаныя з Замбжыцкімі"**, пачытаем пра Стрынадкі, дзе тыя Замбжыцкія ўсё ж жылі:

"Strynadki (Strenadki) – у спісе 1865 г вёска ў Дзісненскім павеце, першая паліцыйная акруга, сельская акруга Свіла, 9 вёрстаў ад гміны ў вёсцы Пліса, 64 вярсты ад Дзісны. У 1863 годзе было 8 дамоў, у якіх жыло 47 каталіцкіх жыхароў, 16 рэвізскіх душ. Вёска адносілася да маёнтка Свіла, які быў уласнасцю Янушкевічаў .



Падсвілле, 1930-я гг. Кашары (казармы) палка "Глыбокае" Корпуса Аховы Памежжа, батальёна "Падсвілле", які ахоўваў мяжу з СССР даўжынёй 77,573 км. Не захаваліся. *Фота NAC.*

**1855 г.**

Тут жыў Адам Якуб Замбжыцкі (нарадзіўся 1801 г), сын Людвіка і Малгажаты з Рыжых, са сваёй жонкай Тэрэзай з Зяноўскіх.

Разам з імі жыў іх сын Станіслаў Замбжыцкі (нарадзіўся ў 1836 г.) .

**1855.03.15** .

У гэтым засценку памёр Адам Якуб Замбжыцкі. Ён быў пахаваны на цвінтары ў Галубічах. Засталіся: жонка і сын Станіслаў".

І так фундаментальна – пра кожную вёску ці мястэчка! Дзе хто нарадзіўся, з якой вёскі браў жонку, ці выходзіла замуж, дзе памёр(ла), дзе пахаваныя... Хто такія Замбжыцкія? Зразумела, не простыя сяляне! Замбжыцкія былі шляхтай, вялі свой радавод, былі (і ёсць цяпер па свеце) сярод іх і пісьменнікі, і дыпламаты. Аднак гэта – зусім іншая тэма!

Узнікае лагічнае меркаванне, калі так фундаментальна складзены кантэнт (напаўненне) сайта **"Мясцовасці, якія звязаныя з Замбжыцкімі"**, то не маглі ж аўтары сайта памыліцца з датай першай згадкі пра Падсвілле – **1793** год! Не падобна на тое! Але, што з таго, калі на сайце няма спасылкі на гістарычны дакумент, гэта ўжо не дакумент, а паведамленне, якое можна прыняць да ведама. Шкада, але на сайце, чамусьці, няма кантактнага адраса, няма і форума, дзе можна было б пакінуць пытанне ці каментар. Будзем спадзявацца, што нам, усё ж, некалі пашанцуе: адшукаецца патрэбны дакумент і Падсвілле калісьці адзначыць калі не 225, дык 230, а то і 240 гадоў!

Можна задацца пытаннем: чаму цягам двух стагоддзяў ніхто не заўважаў Падсвілле? А вы заўважце цяпер вёску Барок! Няма яе, хоць і стаяць дарожныя шыльды – "Барок". На плане Глыбокага – вуліца Сасновая.

Але пра што можна разважаць далей, калі **ўжо** ў рускамоўнай версіі Вікіпедыі напісана: "Подсвилье (белор. Падсвілле) — городской посёлок в Глубокском районе Витебской области Белоруссии... Известен с **1793** как деревня Плисской волости Дисненского уезда (...)" Праўда, і тут, таксама, без спасылкі на дакумент. Выглядае так, што на сайт **"Мясцовасці, якія звязаныя з Замбжыцкімі"** заходзіў не толькі я адзін! Інакш бы сумленны аўтар артыкула ў Вікіпедыі аб Падсвіллі ўказаў бы спасылку на дакумент!



Падсвілле, 1930-я гг. Прыгожы будынак 7-класнай школы ў "закапанскім стылі". Знесеная ў гады ўжо незалежнай Беларусі. *Фота NAC.*

# Аматарам адпачынку на вадаёмах

■ **А.А. Федзічкін,**
*нам. начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Рыбалка – гэта адна з найбольш частых тэм гутарак моцнай часткі насельніцтва. Мужчыны абмяркоўваюць шматлікае: на што лавіць, дзе, якія снасці выкарыстоўваць. Пра лоўлю рыбы мы чуем вельмі часта, бо гэта прыемны і незабыўны адпачынак, любімы занятак мужчын, для якога яны заўсёды імкнуцца вылучыць час са свайго цяжкага працоўнага графіка. Гэта могуць быць запланаваныя адпачынак ці проста падыходныя вольныя выходныя – для аматараў парыбачыць розніцы няма.

З наступленнем лета з кожным днём павялічваецца колькасць рыбаловаў-аматараў на вадаёмах. У сувязі з чым, лічым неабходным нагадаць, што на рыбалцы неабходна выконваць пункт 98 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у якім адзначана, што рыбаловы, якія здзяйсняюць аматарскае рыбалоўства, абавязаны падтрымліваць належны санітарны стан рыбалоўных угоддзяў, не пакідаць на іх берагах смецце і іншыя адыходы. Таксама, прыязджаючы на рыбалку на аўтамабілі, неабходна яго пакідаць на адлегласці не бліжэй за 30 метраў ад берагавой лініі воднага аб'екта – за дадзеныя парушэнні цягне накладанне штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь. Арандатары рыбалоўных угоддзяў таксама абавязаныя падтрымліваць належны санітарны стан арандаваных рыбалоўных угоддзяў, арандатару за такое парушэнне пагражае штраф ад ста да пяцісот базавых велічынь. Таксама мы звяртаемся да грамадзян, якія прыязджаюць у рыбалоўныя ўгоддзі проста адпачыць – не пакідайце пасля сябе смецце, не ламайце альтанкі, лаўкі, якія зробленыя для вашага адпачынку. Таксама просьба да рыбаловаў-аматараў: не карыстайцеся рознымі чуткамі, усю неабходную інфармацыю вы можаце атрымаць у супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі.

Аб усіх парушэннях можна паведаміць па тэлефон даверу 8-02156-2-86-70 кругласутачна, маб. Мтс: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

## МНС інфармуе

**на 21. 06.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 345;
Гібель людзей – 43, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 11;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Не нашкодзь прыродзе!

■ **А.Г. Абрамчык,**
*Ст. дзяржінспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі штогод выяўляюцца дзясяткі парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, састаў і характар іх розны. Пры здзяйсненні правапарушэнняў прычыняецца шкода навакольнаму асяроддзю, напрыклад, пры скідзе забруджвальных рэчываў у водны аб'ект; незаконным вынятку, знішчэнні ці пашкоджанні дрэў і хмызнякоў да ступені спынення росту; забруджванні ляснога фонду адыходамі; незаконным вынятку ці знішчэнні дзікіх жывёл, уключаючы гібель рыбы і іншых водных жывёл; знішчэнні ці пашкоджанні мурашнікаў, гнёздаў, нор ці жылля дзікіх жывёл (за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўчымі актамі) і інш.

За парушэнне правіл рыбалоўства, палявання і лесакарыстання да вінаватых асобаў ужываюцца штрафныя санкцыі, а ўрон, прычынены навакольнаму асяроддзю, падлягае пакрыццю ў поўным аб'ёме.

Так, пры незаконнай парубцы дрэў прыйдзецца пакрыць шкоду ад 0,05 - 3 базавых велічынь (далей - БВ) у залежнасці ад дыяметра дрэва ў пня, незаконнай здабычы лася – 300 БВ, казулі – 120 БВ, незаконным вылоўліванні шчупака – 3 БВ, ліна – 6 БВ, за незаконны збор ці знішчэнне лясной падсцілкі ці жывога глебавага покрыва за 1 м² – 1 БВ і г.д. Таму, хочацца звярнуцца да грамадзян – беражыце прыроду!

**Не нашкодзь прыродзе і не нашкодзіш сабе сам!**

Аб усіх парушэннях можна паведаміць па тэлефон даверу – 8-02156-2-86-70 кругласутачна, маб. Мтс 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

